# ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ

Цэна асобнаго № 15 кап.

**Умовы падпіскі на 1917 год.**

| За 1 м. | За 2 м. | За 3 м. | За 4 м. | За 5 м. | За 6 м. | За 7 м. | За 8 м. | За 9 м. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 р. | 2 р. | 3 р | 4 р. | 5 р. | 6 р. | 7 р. | 8 р. | 9 р. |

Падпіска прымаяцца толькі с 1-го числа кожнаго месяца.

Перамена адрэсу—50 коп. Пры зьмені адрэса конча прыкладаць стары адрэс.

Рукапісы павінны быць чытэльна напісаны і толькі з аднаго боку паперы. Кепска перапісаныя рукапісы ні чытацца, ні друкавацца ня будуць.

На ліставання, перасылку рукапісаў і іншыя адказы-павінны прыкладацца маркі.

**Газэта палітычная, эканамічная і літэратурная.**

Год выданьня I.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Мінск, Захараўск. 18

**Умовы друку абвестак:**

(На IV боку газэты) за 1 радок шпальту 40 к. за 2 рад. 80 к. за кожны раз.

Асобам, шукаючым працы — 1 руб. за 3 радкі за адзін раз.

**№ 19. 1917 г. Панядзелак Выходзіць двойчы на тыдзень. 11 верэсьня 1917 г. № 19.**


## Нашы патрэбы.

I.

Селянам, як рыбі вада, патрэбна зямля. Без зямлі селянін затхнецца на Беларусі, як рыба на беразі. Ня глядзючы на тое, што навокала процьма зямлі і панскае, і казеннае і манастырскае і што гэтае зямлі хваціла-б на ўсіх аж занадта, а нашаму селяніну прыходзіцца усё такі пакідаць сваю родную хату, раставацца с сваімі людзьмі ды вандраваць у сьвет шукаць сабе хлеба... Найчасьцей, пажагнаўшыся з роднаю краінаю, падаецца ён у чужы далёкі горад, часамі у Амэрыку, а праз апошнія годы селяне нашы цэлымі вёскамі перасяляліся у Сібір. Але нідзе німа лепяй, як дома. На чужыні заўсюды нудна, кепска і нядобра. Апарт таго, чалавек трапіўшы на чужыну, пачынае пераймаць чужую мову, чужыя звычаі і калі прыпадкам і вернецца да дому, дык пачувае сябе, як адрэзаная луста хлеба. Пераняўшы чужую гаворку, чужыя звычаі і уклад жыцьця, чалавек як-бы умірае для свайго краю і вароду. Такім чынам, народ можа раскідацца па сьвеці, аслабець, расцярушыцца, як нацыя, і загінуць саўсім, як асобны народ. Вось і трэба парупіцца і паклапаціцца аб тым, каб гэтага ні здарылася, каб народ наш беларускі жыў заўсюды разам, на сваёй беларускай замлі, каб ён рос, крапчэў і пашыраўся ды ні даў сябе праглынуць большым і дужэйшым суседзям.

Цяпер, дзякуючы рэвалюцыі, адтрымана поўная магчымасьць ухіліцца ад гэтых сумных і прыкрых зьявішч. Дзеля гэтага народ павінян адбудаваць нанова увесь дзяржаўны лад у гасударстві, трэба завесьці новыя парадкі ва ўсём грамадзком жыцьці. Стары парадак згніў і раскідаўся і так ці гэтак, а людзям трэба будаваць новы парадак. Кожын з нас памятае, як трудна жылося пры старым парадку. Вот-жа і трэба цяпер усё уважна абмяркаваць, абгледзіць і парупіцца аб тым, каб той новы парадак, каторы мы маём пабудаваць, быў дапасован да нашых патрэб, да патрэб усяго працоўнага народу, каб ён ня цісnуў нас, як даўней, ні валтузіў і ні запыняў нашага поступу да лепшага жыцьця, а каб, наадварот, дапамагаў нашаму разьвіцьцю і спрыяў нам у нашых дамаганьнях лепшай будучыны.

Патрэб у кожнага народу многа, але усе іх можна раздзяліць на дзьве часткі,—на патрэбы агульныя, каторых дамагаюцца усе людзі на сьвеці, усе народы, або нацыі, і на патрэбы асобістыя, каторыя аднаму народу ні патрэбны, бо яны ужо іх маюць, а другому патрэбны, як хлеб і вада. Гэтыя асобістыя патрэбы маюць усе дзяржаўныя нацыі, як у нас расійцы або маскоўцы, напрыклад, і ні маюць іх нацыі нідзяржаўныя, як мы, беларусы, і украінцы ці літоўцы у Расіі.

Мы—беларусы, нацыя нідзяржаўная а гэта значыць, што мы, апроч агульных, супольных патрэб з усімі народамі Расіі, маем яшчэ свае асобістыя, беларускія патрэбы. Гэта мы заўсюды павінны трымаць на увазі і у сваіх палітычных і грамадзянскіх дамаганьнях павінны кіравацца сваімі інтарэсамі, сваімі беларускімі патрэбамі. Бяз гэтых сваіх асобістых патрэб трацяць свой сэнс і значэньне агульныя патрэбы. Да агульных, супольных усім народам Расіі, патрэб належыць з я м л я і в о л я, а усе асобістыя патрэбы можна выславіць адным словам: а ў т а н о м і я, т.-е. права самым заводзіць у сябе свае парадкі, права на тое, каб наша родная беларуская мова скрозь панавала у нашым краю, каб на ёй вучыліся, гаварылі, каб яна ужывалася нараўне з расійскай ва усіх урадавых інстытуцыях; каб разьвівалася наша беларуская культура, літэратура, навука, умеласьць, каб мы, беларусы, сталі нараўне і поплеч з усімі народамі, што жывуць на сьвеці,—з расійцамі, палякамі, французамі, ангельцамі, немцамі і т. д. Усяго гэтага мы прычакаем, калі дабьемся сабе а ў т а н о м і і, калі здабудзем аўтаномію для нашага краю, а ў т а н о м і ю Б е л а р у с і.

Учыніўшы рэвалюцыю, мы здабылі сабе волю. Волю мы ўжо маем, але аб зямлі трэба яшчэ падбаць. Маючы волю, лёгка здабыць сабе землю. Дзеля гэтага і кажуць, што воля—самая важная і самая грунтоўная патрэба чалавека. Бяз волі чалавек, як бяз вады рыба.

Да гэтага часу мы усе жылі для багачоў і правіцяльства; дзеля сябе нам некалі было жыць ды й ні давалі нам жыць дзеля сябе. Цяпер-жа гэта мінулася. Дзякуючы волі, мы можам узяць уладу у свае рукі, і павінны узяць яе так, каб потым ніхто ня мог адабраць. Бо каді народ ня возьме улады у свае рукі, дык ён мала таго, што ні разжывецца на зямлю, але страціць яшчэ і сваю волю ды зноў пападзе у няволю да багачоў і цароў. Вот-жа, каб гэтага ня было, каб ня апынуліся мы зноў каля разьбітага карыта, дык нам трэ' падумаць ад чаго гэта залежыць. А залежыць гэта будзе ад таго, каго мы пашлём да Учрэдзіцяльнага Сабранія, або па-нашаму, да Устаноўчага Сойму. Значыць, да Устаноўчага Сойму нам трэба паслаць такіх людзей, каторыя павінны устанавіць у Расіі ф э д э р а т ы ў н у ю д э м а к р а т ы ч н у ю р э с п у б л і к у, або, сказаць па-нашаму, каб кожын народ быў сам сабе галава і каб увесь народ быў сам сабе цар. Вось калі мы установім у нашай дзяржаві гэтакі лад, тагды, напэўна, можам шчыра падзякаваць тым, хто меў многа зямлі: паном, царом і манастыром. І тагды нашы дэпутаты, каторых мы самі выбяром ды пашлём да Устаноўчага Сойму, напішуць такі закон: «Уся зямля у нашым гасударстві належыць усяму народу». Пасьля гэтага, кожны чалавек,—мужчына ці кабета, можа узяць, калі захоча, роўны з усімі кавалак зямлі ды працаваць на ём, жывучы на карысьць сабе і усім добрым людзям. Будзе устаноўляна «працоўная норма», або начай сказаць, колькі дзесяцін, або маргоў у тэй ці іншай мейсцовасьці можна даць на душу. Трэба заўважыць, што кавалак зямлі будзе давацца такі, каб чалавек мог жыць на ём па-людзку. Будуць мяркавацца с тым, каб хваціла ні толькі піць, есьці ды хораша прыбрацца, але каб чалавек мог купляць сабе кніжкі, выпісываць газэты, хадзіць у тэатр. Гэтага кавалка зямлі ніхто ні мае права ні прадаць, ні залажыць, ані здаць ў арэнду. Ен твой, покі ты працуеш на ём, а перастаў рабіць,—зямля зноў адходзіць да народу. Такім чынам, адзін чалавек ніколі ня зьбярэ многа зямлі і ня будзе у вёсках ні вельмі багатых, ні натта бедных,—хіба хто будзе запатта гультаіць.

Гэтак кажуць адны. На іх думку гэта сама лепшы спосаб развагі зямельнага пытаньня. Другія ж з імі ні згаджаюцца і кажуць,—што будзе рабіць удава з дробнымі дзяцьмі? Парабка наняць ні можна ды ён і сам ні пойдзе, бо будзе мець сваю уласную гаспадарку, а, тым часам, есьці трэба. Яны, гэтыя другія, гэтак сама кажуць, што зямля павінна належыць да ўсяго народу, але ні трэба яе рэзаць на дзялянкі і рабіць з яе арцабную дошку. Пры таком парадку ні павернешся у полі з вялікаю машынаю і будзеш поркацца с сахою, як і дзед твой поркаўся. Наагул, народ павялічваецца, а зямля усё тая. Каб яна магла пракарміць усіх людзей, дык яе трэба што раз лепяй абрабляць і ведаць, дзе, як і што лепяй пасеяць. Гэта вымагае агульнай развагі, харошых знаўцаў зямляробства і прасторнасьці ў полі. А адзін чалавек на сваём нівялічкім кусочку,—хібаж можа з усім гэтым управіцца? Вот людзі і кажуць, што посьля таго, як зацьвердзіцца закон, што уся зямля пераходзіць да рук усяго народу, дык яе ні трэба дзяліць па дробныя часткі, а каму колячы прырэзаць, а рэшту заставіць у вялікіх, асобных кавалках, каторыя будуць абрабляцца тымі, хто ні мае ўласнай гаспадаркі,—па кшталт таго, як гэта робіцца на фабрыках і заводах. Там кожны работнік ні мае нічога свайго, асобнага, а працуюць усе разам, як-бы ні дзеля сябе, а, тым часам, і робяць яны меняй за селяніна ў полі і жывуць яны лепяй за зямляроба, або за таго, хто мае свой ўласны кавалак зямлі. Дзеля загаду усёй працай на такіх вялікіх кавалках будуць выбірацца пры кожным мейсцы мейсцовыя «зямельныя рады,» каторыя і будуць кіраваць усім гэтым, як загадчыкі, кіраўнічыя і інжэнеры на фабрыцы ці заводзі.

Як бачым, на кожнае пытаньне людзі маюць свае асабістыя пагляды, каторыя яны стараюцца правесьці ў жыцьцё. Кожнаму здаецца, што яго пагляд найлепшы і разумнейшы за другіх. Але каб той ці іншы пагляд зрабіўся законам для усіх, дык яго павінна зацьвердзіць Учрэдзіцяльнае Сабраніе, або Устаноўчы Сойм па-нашаму. Значыць усё будзе залежыць ад Сойму і ад таго дзяржаўнага ладу, каторы ён установіць. А ўсё гэта агулам, залежыць ад таго, якіх мы выбяром ды пашлём да Сойму дэпутатаў. Значыць, перш-на-перш трэба падумаць аб тым, якіх людзей нам выбіраць за дэпутатаў. Трэба глядзець, каб да Устаноўчага Сойму ні папаў вораг простага народу; асабліва-ж трэ' пілнаваць, каб ні выбраць ды ні паслаць туды ворага нашай бацькаўшчыны, Беларусі. А гэта можа здарыцца, калі мы будзем падаваць голас за чалавека, каторага саўсім ні ведаем, або прадамо свае голасэ за чарку гарэлкі ці за грошы, як гэта даўней рабілася пры валасьці. Ніхай ні дажывом мы да гэтага сораму, да гэтакага ганебнага ўчынку. Нам, беларусам, асабліва трэ' трымаць вуха востра. Мы народ удвойчы пакрыўджаны, нам мала таго, што хто паабяцае стаяць у Сойме з а з е м л ю і в о л ю. Земля і воля—добрая рэч, але мала з гэтага карысьці будзе, калі мы зноў пападом у нацыянальную няволю да расійцаў ці палякоў. Мы павінны кожнаго, хто дакляруе нам землю, яшчэ спытаць, а як ён, пане дабрадзею, ставіцца да нашае мовы, а ці шануе ён нас, як беларусаў, ці хоча ён, або ці будзе стаяць у Сойме за тое, каб у нас былі свае беларускія школы, каб мова наша панавала ў нашым краю, каб у нас былі свае беларускія парадкі, каб мы сваёю замлёю распараджаліся самі так, як гэта нам люба і карысна,—адным словам, мы павінны спытаць, ці будзе ён дамагацца а ў т а н о м і і Б е л а р у с і. А калі ён нам гэтага ні дакляруе, дык мы павінны прагнаць яго ад сябе прэч, хоць бы ён быў і сацыяліст. Аўтаномія нам патрэбна, як рыбі вада, птушцы воздух, а зямляробу зямля. Бяз аўтаноміі і зямелька ні пойдзе нам на карысьць. Гэта мы павінны цьвёрда запамятаць і пастаянна трымаць на увазі. Божа нас барані, каб мы, праз падашуканства ці праз што нібудзь другое, адказаліся ад гэтага ці згадзіліся с кім, што аўтаномія нам ні патрэбна, што з нас досыць і таго, калі мы адтрымаем землю.

Што гэта а ў т а н о м і я і дзеля чаго, уласна, мы, беларусы, павінны яе дамагацца,—аб тым гутарка пойдзе у другі раз. А покі што трэба памятаць, што той, хто будзе палохаць нас аўтаноміей і даводзіць нам, што яна ніпатрэбна і шкадліва, дык ён вораг наш, вораг усяго беларускага народу. Аўтаноміі дамагаемся ні адны мы, беларусы, а усе народы Расіі: украінцы, літоўцы, латышы, фінляндцы і т. д. Ужо з гэтага відаць, што яна штось ні кепскае, калі яе так прагнуць людзі. А калі мы, беларусы, адмовімся ад гэтага, дык толькі пасьведчым усім людзям на сьмех, што мы народ цёмны, баязлівы і самі ні ведаем, чаго нам трэба.

**Я. Л-к.**

## Праэкт пляцформы беларусаў-аўтанамістаў.

### I. Дзяржаўны лад.

1] Дзяржаўны лад гасударства Расійскага будуецца на грунці дэмакратычнай фэдэрацыйнай рэспублікі, каторая забязпечвае асобным народам, уваходзячым у склад Расійскай дзяржавы, шырокае мяйсцовае самапарадкаваньне і культурна-нацыянальнае самаазначэньне.

2] У асобку, за беларусамі прызнаецца права на нацыянальнае, культурнае і палітычнае самаазначэньне з захаваньнем еднасьці і неразлучнасьці з Расіяй і з забезпячэньнем праваў нацыянальных меньшасьцяў краю.

Палітычная і нацыянальна-тэрытарыяльная аўтаномія Беларусі у межах этнаграфічнага расьсяленьня беларускага племяні азначае выдзяленьне Міншчыны, Магілёўшчыны, Вітэбшчыны (за вылучэньнем Дзьвінскага, Рэжыцкага і Лю-

старшыні міністраў Керэнскаму, міністру чужастранных спраў Тэрэшчэнко, ваеннаму міністру генерал-майору Верхоўскаму, марскому міністру контр-адміралу Вэрдэрэўскаму і міністру почты і тэлеграфу Нікіціну.

### Зачыненьне рэечнага заводу.

Праўленьне Багаслоўскай горнай акругі пастанавіло зачыніць вялікі рэячны Надзеждзінскі завод дзеля немагчымасьці задавольніць эканамічныя трэбаваньня работнікаў.

### Курс рубля.

У Фінляндзіі за расійскі паперовы рубель даюць каля 30 кап. [90 фін. марак за 100 руб.[ У Пэрсіі справа стаіць шмат горш: там за рубель даюць 8—10 кап., або саўсім ня хочуць браць расійскіх паперовых грошы.

### Пашырэньне правоў Фінляндзкага сэнату.

Абнародавана пастанова Часовага Ураду аб пашырэньні праў Фінляндзкага Сэнату.

### Канфэрэнцыя Нацыанальных Сацыялістычных Партый.

5—11 жніўня ў Петраградзі адбылася канфэрэнцыя нацыанальных сацыялістычных партый. Былі паўнамоцныя прэдстаўнікі такіх партый: Армянск. С.-Р. Парт. «Дашнакцутюн», Беларуск. Сац. Грамады, Грузінск. Рэвал. Пар. Сап.-Фэдэралістаў, Жыдоўск. С.-Д. Р. П. [Поалей-Ціон], Жыд. С. Р. П. [злучан. С. С. і Е. С], Летгальск. Сац. Працоўн. П., Маскоўскага Арганіз. Бюро Нац. Сац. Пар., Мусульман Сац. Групы Усерасійск. Рады, Партыі С.-Р., Партыі С.-Р. Латвіі, Пар. С. Н. Літвы, Польск. Пар. Сац. [быўш. рэв. фракц.], Працоўн. Нар.-Сац. Пар., Харкаўск. аб'еднанага блоку 5 Нац. Сац. Пар., Эстонск. Парт. С.-Р.

Апроч таго. былі без мандатаў прэдстаўнікі Буратскай і Асецінскай сац. групаў, С.-Д. П. Літвы, Украінск. Пар. С.-Р. і шмат часьцей ад іншых сац. партый.

Было прачытано шмат дакладаў: аб нацыанальнай ідэі сярод сац. пар., аб агульнай плятформі па нацыанальнаму пытаньню і інш.

Пастаноўлено склікаць не пазьней верасьня зьезд прэдстаўнікаў нацыанальных сацыялістычных партый дзеля апрацаваньня і прыняцьця агульнай плятформы.

Пастаноўлено выдаваць свой орган пад назваю «Расійскій інтэрнаціонал».

Пастаноўлено дэлегаваць сваіх прэдстаўнікаў у Параду аб краёвай рэформі і ў Аддзел па нацыанальных справах пры Часовым Урадзі.

Пастаноўлено прычыніцца да Маскоўскай Парады і Стакгольмскай Канфэрэнцыі.

### Аб заводах, працуючых на абарону.

У Адэсі была зроблена проба падпаліць электрычную станцыю, якая дае ток на заводы, працуючыя на абарону. Проба не удалася.

28-га жніўня днём згарэў хімічны завод Зэрцовіча ў Нава-Беліцы, каля Гомэля.

### Пажар віннага складу.

Салдаты маршавых ротаў, выеждаўныя на фронт захапілі ў гор. Мікалаеўску Самарск. губ. казённы вінны склад, у якім знаходзілось каля 48.000 ведзяр віна і спірытусу. Гэта было вечарам. Усю ноч ішло пьянство. На другі дзень а поўдні на складзі здарыўся пажар. Шмат чапоў са сьпірытусам узарвалось. Перагародкі ў сярэдзіні складу ад моцы ўзрыву абярнуліся і завалілі каля 200 чалавек.

### Нацыяналізацыя школы ў Каўказкай вучэбнай Акрузі.

Камісарыат Каўказкай вучэбнай акругі зрабіў пастанову, што праводзіць нацыяналізацыю школу на Каўказі павінны асобыя школьныя камітэты пры падмозі органаў мяйсцовага самакіраваньня. Нацыяналізацыю школы пастаноўлено начаць праводзіць у надходзячым вучэбным року.

### Забастоўка ўласьнікаў бавоўнічных плянтацый.

Уласьнікі бавоўнічных плянтацый у Туркестані змовіліся абвясьціць арыгінальную і надта страшную забастоўку. Бавоўнік [расьліна, з якой робяць вату] у Расіі расьце толькі ў Туркестані, бо для яго патрэбны цёплы клімат. Вата цяпер надта патрэбна як для мэдыцыны, так і для артыльлярыйскіх заводаў. З бавоўны робяць усе сарты танных паркалёвых тканінаў.

Уся зямля, годная на пасеў, у Туркестані занята бавоўнікам; хлеба насеяць німа дзе і насяленьне корміцца прывазным хлебам. Туркестан дастаўляя на фабрыкі і заводы Расіі цэнны і патрэбны прадукт, а ўзамен не атрымлівае нічога. Хлебу ня прывозяць. Пуд пшаніцы каштуя 75 руб., значыць, бяз малага 2 р. фунт. Народ галодае. Былі выпадкі сьмерці ад голаду. Мала таго, туркестанцы разводзяць бавоўнік, з бавоўны робяць на фабрыках тканіны, але гэтых тканінаў у Туркестан не вязуць. Людзей, значыць, адзевай, а сам голы хадзі. Так сама дрэнна стаіць справа з дастаўкай іншых прадуктаў.

Апроч гэтых эканамічных прыкынаў забастоўкі есьць і палітычныя. Ва ўсіх рэвалюцыйных арганізацыях Туркестану адвечных жыхароў краю—сартаў, знайходзіцца зусім мала, і рэй водзяць людзі прышлыя.

Дзеля ўсяго гэтага сарты-ўласьнікі бавоўнічных палёў, каб не памёрці з голаду і разам с тым, каб выразіць пратэст проціў несправядлівых адносінаў ураду да іх патрэбаў, пастанавілі: у настаючым годзі засеяць свае паля не бавоўнікам, а жытам і пшаніцаю.

Гэтая пастанова будзя яшчэ разглядацца на агулвна-туркестанскім мусульманскім зьездзі. Калі-б зьезд зацьвердзіў забастоўку,—было-б дрэнна усёй Расіі. Заводы, працуючыя на абарону, сталі бы. Ня можна было-б выраблящь і паркалю, а без паркалю у селяніна не дастанеш ні пуда жыта.

Урад павіняп зрабіць усе заходы, каб задаволіць справядлівыя патрэбы туркестанцаў і не дапусьціць іх да забастоўкі.

### Пра пачатак вайны.

У сваіх успамінах, надрукаваных у ангельскай газэці Daily Telegraph, быўшы амарыканскі пасланец у Бэрліні, Джэрард, падае новыя ведамасьці пра пачатак вайны, якія добра сьведчаць аб хаценьні Гэрманіі выклікаць цяперашнюю вайну і адкінуць усе спробы захаваньня міру.

17 ліпня 1914 году Джэрард меў гутарку з французкім пасланцом Камбонам і з бэльгійскім—баронам Бейенсам. Абодва яны прызналі, што толькі заходы злучаных Штатаў могуць адхіліць вайну. Тагды Джэрард, на сваю адпавядальнасьць, зьвярнуўся да гэрманскага канцлера Бэтман-Гольвега с такім лістам:

«Ваша эксцэленцыя! Ці ня можа мой край што-небудзь зрабіць, каб не дапусьціць гэтай страшнай вайны? Я пэвян, што прэзыдэнт пахваліць усякі крок, зроблены мною дзеля інтарэсаў згоды.»

Гэты ліст застаўся без жаднага адказу. На другі дзень палажэньне пагоршало, бо Гэрманія абвясьціла край у небяспечным ад вайны палажэньні і патрэбавала дэмабілізацыі Расіі.

### Падмога Расіі ад Амэрыкі.

Урад Злучаных Штатаў пастанавіў пазычыць Расіі каля 100 мільёнаў доляраў [цяпер гэта каля 400 міл. руб.]! такім парадкам уся пазычка Расіі у Злучаных Штатаў будзе выносіць 275 міл. доляраў. Так сама пастаноўлено: у самэм найблізшым часі даць Расіі 2,500 паровозаў і 40,000 вагонаў.

## З Украіны.

### Зацьверджэньне Генэральнага Сэкрэтарыяту.

Часовым Урадам зацьверджан такі склад Генэральнага Сэкрэтарыяту аб справах Украіны: Віннічэнко—сэкрэтар фінансаў, Шульгін—нацыянальных спраў, Зарубін—кантролю, Стэшэнко—прасьветы, Патоцкі—генэральны пісар, Соўчэнко-Бельскі—земляробства, Стэбніцкі—камісар аб справах Украіны пры Часовым Урадзі.

### Украінскія катэдры пры Кіеўскім Унівэрсітэцці.

Міністэрства народнай прасьветы аддае на разгляд Часовага Ураду праэкт устанаўланьня ў 1917-18 школьным року пры Кіеўскім Унівэрсітэцці 4-х катэдраў украіназнаўства: украінскай мовы, украінскай гісторыі, украінскага пісьменства на гістарычна-філолёгічным факультэці і гісторыі заходня-расійскага права на юрыдычным.

### Украінскія банкі.

Дзеля падмогі эканамічнаму развіцьцю Украіны ў найблізшай будучыні адчыняяцца нэколькі украінскіх банкаў. Сьледам за украінскім каапэратыўным банкам ў Кіеві адчыняецца украінскі банк у Адэсі, а посьля ў Харкаві.

### Пратэст проціў прылучэньня Холмшчыны да Польшы.

Першы зьезд дэлегатаў ад украінцаў холмскіх ухваліў рэзалюцыю пратэсту проціў таго, што Часовы Урад даручыў Ліквідацыйнай Камісіі аб справах Каралеўства Польскага займацца справамі Холмшчыны. «Губэрня Холмская—гаворыцца ў рэзалюцыі—не належыць да Польшы ні па праву, ні па свайму этнаграфічнаму складу.»

## ВАЙНА.

### Агляд ваенных падзей.

Над Рыгаю ужо устанавілося заціішэ.

На Румынскім фронці—мяйсцовыя атакі і контр-атакі ў розных районах.

На Каўказкім фронці—на гарах ужо выпаў сьнег, у іншых мяйсцох глыбінёю да паўтара аршына; мяцеліца і мароз да 10 градусаў.

На усіх фронтах — перастрэлка, разведкі і налёты аэрапляпаў, як нашых, так і нямецкіх.

На Француз кім фронці—артыльлярыйская стрэляніна і набегі невялікіх партый.

На Італьянскім фронці—наступленьне італьянцаў заціхае. Італьянцы яшчэ пасуваюцца наперад, але памалу: на поўвярсты, на чвэрць вярсты. Аўстрыйцы, перапалоханныя італьянскім наступленьнем, перавезлі туды з расійска-румынскага фронту каля 200,000 чалавек. Такім парадкам, італьянцы памаглі расійскім арміям стрымаць нямецка-аўстрыйскае наступленьне на Паўднева-Заходнім фронці і ў Румыніі.

### Скольні германцы маюць войска і на якіх фронтах яго трымаюць.

Аб гэтым у пачатку верасьня ў расійскіх газэтах зьявіліся такія весткі:

На расійскім фронці—$90^1/_2$ нямецкіх дзівізій, 39 аўстра-вэнгерскіх, $2^1/_2$ баўгарскія і 4 турэцкія. Усяго 136 дзівізій пяхоты. Конніцы праціўнік трымае на нашым фронці $24^1/_2$ дзівізій, з ліку каторых 11 нямецкіх, $12^1/_2$ аўстра-вэнгерскіх і 1 баўгарская.

На ангельска-францускім фронці немцы трымаюць 147 пяхотных і $3^1/_2$ конных дзівізіі.

На італьянскім фронці—38 аўстра-вэнгерскіх дзівізій.

На Каўказкім фронці—20 турэцкіх пешых дзівізій і $2^1/_2$ конных.

На Балканскім фронці—$1^1/_2$ нямецкіх дзівізіі, 2 аўстрыйскія, $10^1/_2$ баўгарскіх і 1 турэцкая. Усяго 15 дзівізій.

У Азіі і Кастанцінопальскай акрузі—18 турэцкіх дзівізій.

Усяго нашы ворагі маюць на розных фронтах $403^1/_2$ дзівізіі пяхоты і конніцы.



Рэдактар Я. Лёсік.





Друкарня Н. М. Нахумова (старшага)

Выдавец «Т-ва Беларускай Культуры.»